# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 35 (966) ГОД XIX БЕЛАСТОК 1 ВЕРАСНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.



## З новым школьным годам!

Зноў верасень залоціць лісцё на дрэвах, і залівістае трымценне званка абвяшчае, што скончыліся ў школьнікаў летнія прывольныя часы.

Для многіх сёлетні першы званок звініць асабліва ўрачыста. Перш за ўсё для нашых першакласнікаў, што з мамкамі і таткамі ўпершыню пераступаюць школьны парог, ён адкрые ў забаве і працы чароўны свет літар, лікаў і навучыць добрым справам. Першагодкаў, перад якімі шырока адчыняюць свае класы і кабінеты сярэднія школы, павядзе ў неабсяжны свет навукі, рыхтуючы да будаўнічай працы і актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Для будучых абітурыентаў ён абазначае апошні год іх заняткаў у роднай школе і таму заахвочвае да асабліва саліднай працы над удасканальваннем сваіх уменняў і паглыбленнем ведаў. Для ўсіх іншых школьнікаў ён адкрывае новую працавітую і займальную старонку вучобы.

Нашым настаўнікам і выхавацелям першы школьны званок пачне новы раздзел у іх высакароднай працы над кшталтаваннем сённяшняга і будучага пакаленняў грамадзян нашай сацыялістычнай Радзімы. Усім ім і асабліва тым, хто ўпершыню стане за настаўніцкім сталом і гляне на суцішаны ў чаканні клас, ён адкрые новы этап вялікіх творчых здзяйсненняў.

З першага ўрока наша родная беларуская мова будзе несці ўсім сваю непаўторную прыгажосць, захапляць сэрца кожнага, яна навучыць любіць і шанаваць усё роднае, дапаможа ў вывучэнні іншых моў і прадметаў. Няхай жа заняткі па роднай мове будуць самымі прыемнымі, самымі раднымі часінамі ў школе. Вялікіх поспехаў і задавальнення жадаем усім вывучаючым роднае слова, пашыраючым свае веды аб велічных здабытках культуры беларускага народа і яго багатай гісторыі. А той, хто першы раз адкрые падручнік па беларускай мове і крок за крокам настойліва, не зважаючы на цяжкасці, будзе знаёміцца з беларускім словам, выдатна сябе ўзбагаціць.

„Ніва" і „Зорка", як заўсёды, будуць вернымі спадарожнікамі і педагогаў і навучэнцаў. Будзем і надалей развіваць і ўмацоўваць нашу сувязь са школай, у нашых публікацыях адлюстроўваць яе жыццё, прапагандаваць дасягненні і ўздымаць праблемы, якія хвалююць асвету ва ўсёй нашай краіне. Сардэчна запрашаем і настаўнікаў і вучняў на старонкі нашых часопісаў. Няхай яны стануць трыбунай школьнага жыцця, яго дасягненняў і клопатаў. Будзем адначасова імкнуцца змяшчаць матэрыялы карысныя і педагогам і школьнікам.

Жадаючы самых чацвёрак і пяцёрак і школьнікам, і педагогам, і працаўнікам асветных устаноў, да ўрачыстага букету далучаем і нашу, ад усяе рэдакцыі, ірдзістую ружу.

З новым школьным годам, дарагія сябры!

Сярод спелага залацістага жыта грукатаў чырвоны трактар, размахваючы шырокімі крыламі снопавязалкі. За рулём сядзеў малады, бадзёры трактарыст **Мікалай Жабінскі, селянін** з вёскі **Каянка** ў Сямяціцкім павеце.

— Сёння труднавата касіць, — сказаў ён, спыняючы трактар, каб прывітацца. — Жыта сырое, цяжкае, блытаецца, камячыцца. Але выбачайце... вось хмара якая...



Сапраўды, нізка над зямлёю вісела шэрая хмара, цяжарная дажджом. Мікалай Жабінскі ізноў уключыў рабочы ход свайго трактара. За ім аставаліся роўныя рады павязаных снапоў. Яго бацькі — **Стэфанія і Ян Жабінскія** — ішлі следам за ім і састаўлялі снапы ў дзесяткі.

— Вось вобраз сучаснага жніва, — падумалася мне. — Як жа яно розніцца ад таго, якое асталося ў памяці з гадоў майго дзяцінства. Тут, на полі ў Яна і Мікалая Жабінскіх, поўнасцю ажыццяўляецца прыкмета сучаснасці: **навука** і **тэхніка.** 69-гадовы бацька гэтае поле дзесяткі разоў перамерыў яшчэ з касой і сярпом, **а яго 28-гадовы сын ужо поўнасцю перасеў на трактар. За ім сярэдняя прафесіянальная школа, сельскагаспадарчы тэхнікум у Чартаеве.** Ён добра ведае, чаго можна і трэба спадзявацца ад зямлі, чаго яна патрабуе ад селяніна.

Таварышы з павятовага камітэта ў Сямяціцчах пра яго казалі:

— Гэта выдатны гаспадар. У 1972 годзе заваяваў ганаровае званне **„Майстар сельскагаспадарчай прадукцыі"**. Ён член Галоўнага і павятовага праўлення Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі, ужо другі год кіруе дзейнасцю пярвічнай партыйнай арганізацыі ў Каянцы, у мінулым годзе выбралі яго ў павятовы камітэт ПАРП, з'яўляецца членам экзекутывы КП у Сямяцічах. Па яго ініцыятыве вёскі Каянка і Бацікі Бліжэйшыя шмат




карыснага зрабілі грамадскім чынам. Найперш быў ён старшынёю, а цяпер скарбнікам мясцовага сельскагаспадарчага гуртка. За грамадскую дзейнасць і высокую сельскагаспадарчую прадукцыю ўзнагародзілі яго **Бронзавым і Сярэбраным** Крыжамі Заслугі і знакам **„Заслужаны для Беласточчыны.**

Ці не замнога ўсяго гэтага на аднаго маладога чалавека? Праводжу яго вачыма. Загарэлы, спацелы твар, рукі чорныя ад трактарнай змазкі. Звычайны, запрацаваны чалавек. Ад пятай гадзіны раніцы ён ужо ў полі, а ўчора працаваў да сёмай вечара.

— Нават на абед шкада часу, — гаворыць мне, калі яны цэлай сям'ёй расселіся між дзесяткамі, каб крыху падсілкавацца, і мяне запрасілі ў сваю кампанію. — Трэба спяшацца, трэба выкарыстоўваць кожную хвіліну спрыяльнай пагоды. А тут яшчэ іншыя сяляне просяць, каб дапамог. Цяжка адмовіцца. Цэлы мінулы тыдзень касіў жыта ў аднавяскоўца.

Маці расклала капчоную каўбасу і падсушаную шынку. Усё дамашняга, уласнага вырабу. Толькі хлеб купчы. Для запіўкі — чай з малінавым сокам.

...Ён, як і ўсе іншыя вясковыя юнакі, марыў аб працы ў горадзе. Пасля заканчэння чартаеўскага тэхнікума працаваў нейкі час у ГС-е, а пазней у ПЗГС-е і насеннай цэнтралі. Два гады быў сакратаром Павятовага праўлення Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі.

— І цяпер мне прапануюць урадніцкую працу, — гаворыць малады гаспадар. Я аднак зусім свядома выбраў бацькоўскую гаспадарку і на ёй астануся.

— А калі жонка не захоча? — заўважыла маці.

— Не бойцеся, захоча, — рашуча адказаў сын. Ажаніўся ён зусім нядаўна — у ліпені 1974 года. А вяселле было такое, якога яшчэ не бачылі ў Каянцы.

Пад вечар дождж прагнаў нас з поля. За клямкай дзвярэй свайго прыгожа размаляванага дома Мікалай Жабінскі знайшоў звітак газет.

(Працяг на стар. 2)



### Адгалоскі

## Цярністы шлях друку Заходняй Беларусі

Газета на беларускай мове ў вёсцы Заходняй Беларусі — гэта не была звычайная справа. Яна чыталася і перачытвалася — індывідуальна і калектыўна, пераходзіла з рук у рукі. Сялянам, свет якіх абмяжоўваўся найбліжэйшым мястэчкам з царквой або касцёлам і некалькімі вёскамі, газета адчыняла шырокія гарызонты. Газета паказвала, як жывуць іх браты за мяжой, выкрывала прычыны яго нядолі і ўказвала дарогу да лепшай будучыні.

Гэта была дарога жорсткай барацьбы, знойная і поўная небяспекі. А ўсё ж тысячы працоўных, абуджаных дэмакратычным друкам, уступалі на гэту дарогу.

Вось чаму хваля рэпрэсій абрушвалася на беларускі дэмакратычны друк.

Кожны з зацікаўленнем прачытае кніжку Сцяпана Говіна „Друк Заходняй Беларусі" (Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск 1974 г.), якая апісвае гісторыю беларускага друку ў 1921-1939 г.

У 1922-1925 г., у абставінах наступлення на правы нацыянальных меншасцей, выкоўвалася стратэгія і тактыка дэмакратычнага друку. Пачатак свой дэмакратычны друк бярэ ад 1922 г., калі на акупіраваных панскай Польшчай землях Заходняй Беларусі ўзнікла „Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя".

Хаця канстытуцыя з 21 сакавіка 1921 г. і выданыя на яе аснове законы гарантавалі права свабоды друку, аднак у сапраўднасці правы гэтыя аставаліся на паперы.

„Якія толькі захады, накіраваныя на тое, каб спыніць друкаванне радыкальных выданняў на мовах народаў меншасцей, не рабіліся. І ўсё гэта тлумачылася неабходнасцю аховы дзяржавы, ладу, захавання грамадскага парадку і грамадскай бяспекі, знешніх інтарэсаў, касцёла і рэлігіі. Зразумела, для ўрадавай ці паланафільскай прэсы такія бар'еры не былі перашкодай...

Распаўсюджвалася радыкальная прэса, як правіла, па падпісцы, але ўлады знаходзілі розныя „метады" перашкод на яе шляху. Газеты канфіскоўваліся нават мясцовай паліцыяй ці затрымліваліся паштовымі служачымі. Часта трэба было браць дазвол паліцыі на перасылку падпісчыкам нават не канфіскаваных нумароў.

Усё гэта вяло да таго, што кіяскёры і разносчыкі газет баяліся браць беларускія выданні для продажу, каб не папасці ў няміласць мясцовай паліцыі".

Масавае развіццё дэмакратычнага друку прыпадае на час дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай грамады (1925-1927 г.). Рэпрэсіі ў адносінах да друку ў гэты перыяд пастулова нарастаюць. Звычайна пасля некалькіх ну-

(Працяг на стар. 5)

З ПЕСНЯМІ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР

### ДУЭТ З ПАЎНОЧНАГА ВОСТРАВА



Яўген Жарначук і Янка Чабан з Паўночнага Вострава Сакольскага павету на сёлетнім фінальным песенным аглядзе БГКТ занялі трэцяе месца ў групе дуэтаў (у катэгорыі фальклорнай песні). Фота А. Карпюка




## Дні культуры рабочай Гайнаўкі

Рада Дзяржавы ўзнагародзіла **Ордэнам Сцяга Працы II класа** горад Гайнаўку. Гэта высокая ўзнагарода з'яўляецца довадам прызнання грамадствам нашай краіны слаўных рэвалюцыйных традыцый Чырвонай Гайнаўкі ў мінулым і яе сённяшніх вялікіх дасягненняў у гаспадарцы і грамадскім жыцці. З некалі занядбанага і беднага мястэчка, загрувашджанага ўбогімі баракамі, яна за тады Народнай Польшчыператварылася ў сучасны цэнтр лясной прамысловасці, асветы і культуры. Рэканструяваны і пабудаваны новыя заводы, некалькі сярэдніх школ і тэхнікум, пяць пачатковых школ, культурныя ўстановы, сучасныя жыллёвыя раёны са шматпавярховымі дамамі, пасёлкі вілаў і новых аднасямейных домікаў — вось вобраз сённяшняй працавітай Гайнаўкі.

Як нас паінфармаваў старшыня Павятовай рады прафесіянальных саюзаў у Гайнаўцы **Кастусь Ляшчынскі**, ад 14 да 22 верасня г.г. будуць урачыста адзначаны **Дні культуры рабочай Гайнаўкі.** Арганізатарам гэтага велічнага мерапрыемства з'яўляецца Павятовая рада прафесіянальных саюзаў пры саўдзеле павятовага і гарадскога ўпраўленняў, усіх прадпрыемстваў, маладзёжных і грамадскіх арганізацый.

Праграма ўрачыстасцей багатая.

**У суботу, 14 верасня, уся гайнаўская моладзь выйдзе пад лозунгам „Гарачыя сэрцы, уменні і моцныя рукі — нашаму гораду“ да добраўпарадкавання горада, парка і месц народнай памяці.** Затым жыхары горада прымуць удзел ва ўрачыстым адкрыцці скульптуры, прысвечанай барацьбе за свабоду і незалежнасць. Вечарам моладзь і дарослыя пры святочным кастры будуць слухаць успаміны былых партызанаў, салдатаў і дзеячоў міліцыі. Прыгадаюцца колішнія рабочыя, партызанскія і салдацкія песні.

Нядзеля, 15 верасня, будзе праходзіць пад лозунгам рабоча-сялянскага саюза, і цэнтральнае месца зоймуць дажынкавыя ўрачыстасці, якія будуць узбагачаны адкрыццём сельскагаспадарчай выстаўкі і экспазіцыі „80 год прафесіянальных саюзаў работнікаў лесу і драўніннай прамысловасці“, актывісты беластоцкіх прафсаюзаў сустрэнуцца з прадстаўнікамі ваяводскіх і павятовых уладаў, адбудзецца канцэрт беластоцкай філармоніі з удзелам салістаў з Варшавы, майстры ўраджаю і перадавікі працы будуць гуляць на сваім балі.

Панядзелак, 16 верасня, прысвечан лозунгу „Усё для дзяцей і моладзі“. У гэты дзень кіраўнікі прадпрыемстваў прымуць удзел ва ўрачыстых спатканнях з моладдзю сваіх падшэфных школ, школе нумар 1 будзе ўручаны сцяг, беластоцкі лялечны тэатр „Свершч“ выступіць са спектаклем у „Гурніку“, адбудуцца шматлікія грамадскія чыны і спартыўныя мерапрыемствы.

Дні 17—20 верасня аб'яўлены „Днямі прадпрыемстваў“ і будуць праходзіць пад лозунгам „Нашы дасягненні ў 30-годдзі“. 20 верасня наступіць урачыстае адкрыццё парку XXX-годдзя, новаму жыллёваму раёну будзе прысвоена імя XXX-годдзя ПНР, пачне працаваць тэлефонная аўтаматычная станцыя, адкрыюцца новыя магазіны і кафэ.

У суботу, 21 верасня, у Аб'яднанні прафесіянальных школ адбудзецца ўрачыстасць, звязаная з узнагароджаннем яго медалем „Заслужаны для Беласточчыны“, рабочы актыў сустрэнецца з вучонымі белавежскіх навукова-даследчых інстытутаў, адкрыецца выстаўка „Асвета і культура ў Гайнаўскім павеце“, а ў „Гурніку“ прадбачваецца канцэрт „Самадзейны мастацкі рух — рабочай Гайнаўцы“.

Святкаванні ў нядзелю, 22 верасня, будуць праходзіць пад лозунгам „Людзям добрай работы“. Яны адкрыюцца ўрачыстасцю адзначэння горада Гайнаўкі Ордэнам Сцяга Працы II класа, якая адбудзецца на стадыёне „Пушча“, выступіць калектыў песні і танца з Каўнаса і эстрада „Граніца“, будуць праведзены спартыўныя мерапрыемствы, а вечарам гайнаўчане і шматлікія госці будуць гуляць на народным балі.

Багатымі, цікавымі і радаснымі абяцаюць быць Дні культуры рабочай Гайнаўкі.

(мг)





*Члены польскай дэлегацыі агледзелі мемарыяльны комплекс „Хатынь“.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

**22** ліпеня 1974 года споўнілася 30 год з дня адраджэння Польшчы. Слаўны юбілей братняй Польскай Народнай рэспублікі разам з усім савецкім народам шырока адзначылі працоўныя Беларусі.

19 ліпеня ў Мінску адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных горада-героя, прысвечаны гэтай знамянальнай ска-савецкай дружбы. Ён адзначыў, што польскі народ, пад кіраўніцтвам партыі камуністаў, за 30 год народнай улады зрабіў грандыёзныя рэвалюцыйныя пераўтварэнні ва ўсіх галінах свайго жыцця. Працоўныя ПНР па праву могуць ганарыцца, што сёння іх рэспубліка па свайму прамысловаму патэнцыялу ўваходзіць у першы дзесятак еўрапейскіх краін. ПНР карыстаецца заслужаным аўтарытэтам і пашанай у свеце як сувярэнная сацыялістычная краіна, а дружба польскага і

## Святкаванне 30-годдзя адраджэння Польшчы

даце. У прэзідыуме — побач са Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сургановым і іншымі прадстаўнікамі партыйных і савецкіх органаў, прадстаўнікі Савецкай Арміі — камандуючы чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругай генерал-палкоўнік І. М. Трацяк і член Ваеннага савета, начальнік Палітупраўлення КБВА генерал-лейтэнант А. В. Дзебалюк, члены дэлегацыі Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы, генеральны консул ПНР у Мінску А. Валяшэк і генеральны консул ГДР у Мінску Л. Волерт.

Ва ўступнай прамове сакратар Мінскага абкома КПБ Р. П. Платонаў сказаў, што працоўныя Мінска, усёй рэспублікі разам з польскім народам адзначаюць дзень адраджэння Польшчы як агульнае светлае свята, як падзею, напоўненую глыбокім гістарычным зместам; разам з усімі працоўнымі братняй краіны яны цешацца вялікімі дасягненнямі, якіх дабілася Польская Народная Рэспубліка пад кіраўніцтвам Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Аб слаўным юбілеі Польскай Народнай Рэспублікі расказаў у сваім выступленні старшыня праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, народны паэт БССР Максім Танк.

З вялікім святам віншавалі польскіх сяброў працоўныя горада Мінска. Яны выказалі ўпэўненасць, што братняя дружба савецкага і польскага народаў і надалей будзе ўмацоўвацца і развівацца на карысць працоўных нашых краін, для справы міру ва ўсім свеце.

Цёпла сустрэлі прысутныя на вечары кандыдата ў члены ЦК ПАРП, сакратара Быдгаскага ваяводскага камітэта ПАРП Тадэуша Людвікоўскага, які стаяў на чале дэлегацыі Таварыства польскага-савецкага народаў, аснованая на трывалым фундаменце пралетарскага інтэрнацыяналізму, з'яўляецца магутным матэрыяльным і маральным фактарам у развіцці нашых краін па шляху сацыялізму і камунізму. Польскі народ, сказаў тав. Людвікоўскі, будзе свята шанаваць памяць герояў, што аддалі сваё жыццё ў барацьбе з фашызмам за вызваленне Польшчы.

Урачыстыя сходы, вечары савецка-польскай дружбы і іншыя мерапрыемствы адбыліся ў абласных гарадах Брэсце, Віцебску, Гродна, а таксама на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, у навуковых установах і арганізацыях рэспублікі.

Выстаўкі „Шэдэўры польскага жывапісу“, польскай кнігі і фотавыстаўкі далі магчымасць шырокім кругам грамадскасці яшчэ лепш пазнаёміцца з жыццём і культурай братняга польскага народа.

Ва ўсіх абласных і раённых гарадах рэспублікі дэманстраваліся новыя польскія кінафільмы „Апошні сведак“, „Узнагароды і адзначэнні“, „Цёмная рака“ і іншыя дакументальныя і мастацкія фільмы.

З нагоды нацыянальнага свята Польшчы генеральны консул ПНР у Мінску А. Валяшэк зрабіў 22 ліпеня прыём.

Святкаванне 30-годдзя адраджэння Польшчы шырока было адзначана ў друку па радыё і тэлебачанню. Акрамя таго, чыталіся лекцыі і даклады аб дасягненнях Польскай Народнай Рэспублікі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, навукі і культуры.

Усе гэтыя мерапрыемствы вылiлiся ў яркую дэманстрацыю непарушнай братняй дружбы паміж савецкім і польскім народамі.

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“**

**Сямейны партрэт Верамеюкоў ● З мінулага рабочага класа Беласточчыны ● Сярод беларускіх велагоншчыкаў ● Эпітафія бельскаму дрэву ● У першай выпускніцы бельскага беларускага ліцэя ● Пенсіі, якія атрымліваюць сяляне ад 1 жніўня 1974 г. ● Віла ў Кожыне ● Весткі з Тарнопаля, Альхоўкі, Крыўца, Дубіч Царкоўных, Чыжоў, Клейнікаў, Гайнаўкі, Тапалян, Зубава, Падбеля і інш. ● Песня „Семёновна“.**

(Працяг са стар. 1)

## Абед у полі

Гэта мая духоўная страва, — кажа, праглядаючы каляровыя здымкі з сёлетняга жніва. — Вось усюды шмат гаворкі, — дадае праз нейкі час, — аб цяжкай нашай працы. Але навошта працаваць, калі можна выручыцца машынамі. Бяда аднак у тым, што гэтых машын мала. Два гады я ўжо чакаю бульбакапалкі, нідзе не магу купіць растрасальніка да гною... Аб гэтым трэба пісаць...

— А „таксоўку“ вы сабе таксама запланавалі? — пытаю.

— А чаму ж не? Гэта для мяне звычайная справа. Толькі спачатку трэба нам перабудаваць хлеўню, каб у год маглі здаваць 50 штук кормнікаў. Гэта аснова нашага прыбытку. А пасля ўжо аўтамабіль...

**Віктар Рудчык**




**Niedziela 1.IX.** 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp., radz. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.10 Ex libris. 10.20 Spojrzenie na Wrzesień — film dok. pol. 12.00 Dziennik. 12.20 Pr. wiejski. 12.35 Nie tylko dla pań. 12.55 Dla dzieci. 13.55 Piłka nożna: Finlandia — Polska. 15.45 Chopin na Majorce — film szwajc. 16.45 Refleksje ob. 16.55 Opowieść o Zamku Król. w Warsz. — film pol. 17.25 My — 74. 18.05 Piosenki XXX-lecia. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Paryska taksówka — film franc. 21.10 Kamera i karabin — pr. dokumentalny. 21.45 Występ polskich zesp. estrad. 22.35 Sport.

**Poniedziałek 2.IX.** 16.00 Pr. dnia. 16.05 Oferty. 16.20 Dziennik. 16.30 Koncert Finał. Harc. Fest. Kult. Mł. Szk. — KIELCE 74. 17.20 Estrada Poet.: A. Mickiewicz — Oda do młodości. Rec. Daniel Olbrychski. 17.30 Echo stad. 18.00 Warsz. perspektywy. 18.15 W dniu imienin — na Stefana. 18.35 Kr. Warsz. i Maz. 18.55 Wyst. amb. Dem. Rep. Wietnamu. 19.00 Film dok. o Wietnamie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: H. Heijermans — „Nadzieja“. 21.40 Świadkowie. 22.10 Mistrz. Europy w lekkoatletyce. 23.30 Dziennik.

**Wtorek 3.IX.** 10.00 Siedem romansów Donii Juanity — film fab. NRD. 11.00 Paryska taksówka — film franc. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mechanizacja. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 16.55 Mistrz Europy w lekkoatletyce. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Eureka. 19.15 Przyp., radz. 20.20 Siedem romansów Donii Juanity — film NRD. 21.15 Świat i Polska. 22.00 Sport. 22.30 Dziennik.

**Środa 4.IX.** 10.00 Gdzie jest generał? — film fab. pol. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Dziennik. 16.15 Los. Mał. Lot. 16.25 Mistrz. Europy w lekkoatletyce. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Anatomia sukcesu. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Gdzie jest generał — film fab. pol. 21.55 Sport. 22.40 Inauguracja. 23.10 Dziennik.

**Czwartek 5.IX.** 10.00 Al Capone i inni — film USA. 13.45 Tech. Rol. Wskazówki metod. 14.30 J. pol. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Kwiaty z tamtych dni cz. I. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 O wolną Bułgarię — film dok. bułg. 19.00 Test — Sł. Ekon. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni. 21.10 Sport. 21.25 Czym żyje świat. 21.55 Ślepe uczucie dr Wyprostka. 22.45 Dziennik.

**Piątek 6.IX.** 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. — Geografia i my. 9.35 Janosik. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Poradnia Młodych. 17.40 Dla młodzieży. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Mistrz. Europy w lekkoatletyce. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 22.15 Dekret o chlebie. 22.55 Dziennik. 23.10 Sport.

**Sobota 7.IX.** 10.00 Cztery damy i as — film fab. franc. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. roślin. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Pr. I prop. 15.50 Telerekl. 16.00 Red. Szk. zapowiada. 16.20 Sport. 18.20 Sobótka. 18.50 Pr. folklor. bułg. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Cztery damy i as — film. fab. franc. 21.50 Pegaz. 22.35 Dziennik. 22.55 Sport. 23.25 Pr. rozr.




**Piątek 30.VIII. —** 8.15 Film fab. 14.05 Pr. dnia. 16.30 Film dokument. 17.30 Film fab. 19.30 Pr. rozr. 20.50 Sport.

**Sobota 31.VIII. —** 7.00 Pr. dnia. 8.00 Film fab. 10.15 Przegląd międzynar. 11.25 Przegląd film. 12.05 Koncert. 14.00 Koncert. 15.30 Filmy anim. 17.10 Boks. Mistrzostwa świata. Finał. 19.30 Koncert.

**Niedziela 1.IX. —** 7.00 Pr. dnia. 11.45 Koncert życzeń. 12.30 Spektakl teatr. 15.00 Klub film. 16.15 Film dokument. 17.10 Piosenki i tańce Mołdawii. 17.30 Film fab. 19.30 Pr. muz. 20.30 Filmy anim. dla dorosłych.




**Białowieża** Monolog — radz. 3—4. Jeździec bez głowy — radz. 5—6. Prawo gwałtu — USA 7—8.

**Czeremcha** Poszukiwanie — hiszp. 3—4. Jaskółki — węg. 7—8.

**Czyże** Monolog — radz. Ogniomistrz Kaleń — pol. 4—8.

**Kleszczele** Białe czaple — buł. 3—4. Arcymistrz — radz. 5—6. Lekarstwo na miłość — pol. 7—8.

**Michałowo** Gappa — japoń. 3—4. Homolkowie na urlopie — czes. 5—6.

**Narew** Serafino — włosk. Tropiciel śladów — rum. 4—8.

**Narewka** Ten okrutny nikczemny chłopak — pol. Młynarczyk i kotka — NRD 4—8.

**Nurzec** Miraż — USA 3—4. Mania wielkości — franc. 5—6. Kto wierzy w bociany — pol. 7—8.

**Orla** Królowa Dzikiego Zachodu — franc. Sąsiedzi — pol. 4—8.

**Suchowola** Echa dawno minionych dni — radz. Po drugiej stronie słońca — angl. 4—8.



B.Z.Graf. zam. 2193 O-3

 


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 188


З ВІЗІТАМ — ГРОДЗЕНЦЫ

## Саволеўка

Малюе віткі планета —
Спакою не знае сусвет.
Мінаюць зіма і лета,
А колькі тых зім і лет?!
Стаіць на планеце вёска,
Над ёю шумяць вятры.
Стаіць сярод роўнядзі плоскай
Стагоддзі мо два, мо тры.
Жывуць на планеце людзі —
Сяляне, мае землякі.
Ці радасць, ці жаль які —
Ніхто з іх нідзе не заблудзіць.
Стаіць на планеце хата —
Звычайны вясковы зруб.
Пабачыла хата багата,
Няздарма вугол ашурп.
Жыве на планеце маці
З сівой галавой, як снег.
Чакае, надзей не траціць
Пачуць сваіх дзетак смех.
Жыве ў гэтай вёсцы ў хаце
Часцінка маёй душы.
Спяшаю штогод да маці —
Пабыць у святой цішы.
Стаіць на Зямлі Саволеўка,
Сумленна глядзіць у прасцяг, —
Радзімы ўсёй сімволіка,
Пачатак яе і працяг.

**У. Шурпа**



## Дзяцінства прыстань

*Жыхарам вёскі Мора прысвячаю*

*Майго дзяцінства прыстань — Мора,*
*Адкуль выводзіш свой назоў?*
*Відаць, было тут мора гора,*
*Мора балот і хмызнякоў.*

*Тут асушылі ўжо балота,*
*З балотам шчэзлі хмызнякі,*
*Знікае гора і турботы,*
*Жывуць больш шчасна землякі.*

*Тады назоў мо недарэчны,*
*Можа інакш назваць сяло?*
*Не існаваць жа таму вечна,*
*Што век свой доўгі аджыло.*

*Ды не! Талковы і прыгожы*
*І новы мае сэнс назоў.*
*Шуміць навокал мора збожжа,*
*Мора красуецца садоў.*

*Каб меў назоў сэнс і апору,*
*Каб нам служыць мог, ды вякам,*
*Жадаю я багацця мора*
*І мора шчасця землякам!*

**Віктар Швед**



* * *

*У канцы лета*
*Вандроўная птушка*
*У даль адлятае,*
*У даль... у даль... у даль...*
*Яшчэ кружыцца*
*Над роднай сялібай,*
*Нівай і лугам,*
*Над завілістай рэчкай,*
*Пабляднелай на сонцы,*
*У летняй спякоце.*
*Яшчэ купаецца*
*У цёплым блакіце*
*Верасьнёвага неба...*
*А ўжо развітваецца*
*З роднай вёскай і рэчкай,*
*Нівай і лугам,*
*З родным небам.*
*І ляціць*
*У даль... у даль... у даль...*
*І гіне*
*У бяздонні неба,*
*Нязнанага неба,*
*Чужога неба.*

**Юрка Баена**

## Прашу цябе, гавары!

Гавары яшчэ, яшчэ —
я буду слухаць,
слухаць да канца,
толькі кідай словы праўдзівыя.

Думкі маланкаю
бліснулі высока
(выдумала Цябе),
ажывілі
(цябе ж няма
я чую толькі твой голас).

Гавары, гавары яшчэ
словы праўдзівыя, прывабныя,
Няхай забуду аб сваім свеце,
запоўненым прытворным зместам,
няхай гляну
на агідную голь
дзён і начэй,
пазбаўленую нават чысціні.

Гавары яшчэ, яшчэ...
Можа словы зменяць
бег думак?
Але цябе няма.
Я нават перастала
чуць твой голас...

**Ніна Гаўрылюк**

## Перажыванні

Матуля мые падаконнік
Анучкай, цёплаю вадой.
Трывогі сумнай не адгоніць
І б'еццa з радасцю-бядой.

Сын запаліў агеньчык ясны,
Затым ад'ездам патушыў.
Агеньчык хутка не пагасне
І будзе тліцца у душы.

Матуля мые падаконнік
Сваёю змучанай рукой.
Слязой-гарошынай прагоніць
Душэўны смутак, непакой.

**Л. Танкевіч**



* * *

Гэта было
такое маленькае
і такое бездапаможнае
знайшла пад мохам
гэта было
ласкавым
такое лёгкае
і дзіўна незразумелае
знайшла яго
але трымаць у руках
чаго — не мела
такое гэта
было
маленькае.

**Ірэна Баравік**

## Йе у Біловежськіх лісах

*Чы можэ буты*
*буольш радосці*
*у очох...*
*Тогды як зэлень бэрэзіны*
*утягае чоловека*
*свойм подыхом*
*у жыце прыроды.*
☆
*Йе у Біловіежськіх лісах,*
*так як над головамы*
*у цэрковных іконах,*
*Радуга,*
*котора сіяе чыстотою*
*і голубыт,*
*бы руодна маты,*
*утыраючы*
*слёзы*
*радосці,*
*просячы до стола*
*тых,*
*што уродыла.*
☆
*у Біловіежськіх лісах*
*такая песьня*
*Котора*
*своею мелёдыёю*
*вымазуе з душы*
*зачадіелы пыл*
*вэлікейі*
*цывілізацыі.*

**Ваня Кірызюк**

## ЭФЕМЕРЫДА



Што зрабіць з так прыемна прачнуўшымся ранкам.
З веек сон страсянуўшы, быццам іней з дрэва?
Нас адліў ночы дзеліць — халоднай маланкай,
Нячуласць тваіх вуснаў — бы дотык паперы.
Нават кроў павальнее ў спішаным дыханні,
Рука нецярплівая, усё яшчэ шукае...
Белай з'явай капрызна ад пальцаў ўцякаеш,
Смяешся за фіранкаю, з радасцю дзіцяці.
Яшчэ свеціць цяплом мне выснёны шэпт цела,
Насуперак далечы, пяшчотна і блізка,
Вакно ў бясконцасць ночы, сон знерухамелы,
Непаўторных уяўленняў на ўскраі світання.

**Кастусь Бандарук**




*„Данилови рекшу: „Не лепо есть держати нашее отчины крижевникомъ Темпличем рекомым Соломоничем". И поидоста на не в силе тяжьце. Прияста град месяца марта, старейшину Бруна яша и вои взоимаша и возвратися Володимер".*
*Запіс у Іпатаўскім летапісе пад 1237 годам.*

Вясна выдалася ранняя і раптоўная. Ужо ў першыя дні сакавіка напорысты паўднёвы вецер з дажджом злізаў снегавое покрыва з адхонаў крапасных валаў, што акружаюць Мельнік, і стромкіх схілаў гары Ушэсця, якая высіцца сярод дубровы на ўсход ад крэпасці. Зранку да вечара сонца лье не па-веснавому парkую цеплыню, а Буг даўно выйшаў з берагоў, і мутная хваля паводкі прагна ліжа бела-шэры крэйдавы абрыў Мелавай гары, дзе на плоскай вяршыне сціснуўся пасад мельніцкіх раменікаў і сялян. Пара б ужо ім рушыць у пушчу падмятаць пчол або сплаўляць на высокай вадзе цісавыя ці дубовыя бярвенні на зрубы новых хатаў, клецяў, а то і на гонкія чаўны. Але ў пасадзе колькі дзён не чуваць у рудніцах звону молатаў па накавальнях і не сцелецца дым з печаў ганчароў. Усе растрывожаныя снуюць па пасаду і, не зводзячы вачэй са старажавой вежы крэпасці, перакідваюцца скупым словам ды прыслухоўваюцца.

Маці Дабка дзён пару таму, змахваючы слязу з веек, павязала ў вузлы і адзежу, і посуд, і харчы, а дзе што-якое ў клеці закапала ў яме. І Дабку цяпер на крок ад парога не пускае: пільнаваць малых трэба і калі што — вузлы ў крэпасць памагчы занесці і дабытак загнаць. Як-ніяк, ён жа адзіны ў хаце ўжо зусім дарослы мужчына, хоць яму толькі ўвосень споўніцца дванаццаць год. Бо ж тыдзень таму дружына князя Данілы ды пяхотныя воі з Мельніка на гасцінец драгічынскі рушылі, а з імі па загаду бірыча і бацька Дабкоў у паход пайшоў. Адны казалі, што супраць яцвягаў накіраваліся, а другія перашэптвалі — няйначай Драгічын здабываць. Там рыцары чужаземныя заселі, калі князь Даніла недзе далёка на поўдні ў паходзе быў. Крэпасць драгічынскую хітрасцю здабылі, кажучы валадару, што прыбываюць у падмогу князю Данілу, каб яго зямлю ад набегаў яцвягаў ды злінцаў ахоўваць, у веру хрысціянскую іх, паганых, уводзіць. Між сабою не на мове нашай перагаворваюцца, а тое, што і кажуць — усё абманнае. Самога валадара і вояў драгічынскіх знячэўку ноччу перавязалі ды ў бужанскую палонку паўкідвалі. Раменікаў і сялян з пасаду сагналі валы ў крэпасці вышэйшыя сыпаць ды сцены падымаць. Як хто-лень з Мельніка ў Драгічын сунецца — адразу ў путы ды на работу гоняць і назад не пускаюць, у халопаў сваіх абарочваюць. На конях аграмадных ездзяць, што папонамі з чорным крыжам накрытыя, і самі на зброю плашч з такім жа крыжам накідваюць. На злінцаў і яцвягаў ісці і не збіраюцца, адно вакол Драгічына мышкуюць. Так што, відаць, не ў наднарвянскую Зліну ці ў азёрную Яцвягію паход князеўскі накіраваўся, але ў суседні Драгічын, на рыцараў-крыжоўнікаў падаўся. А Драгічын ад Мельніка — рукой падаць, усяго адно стаянне. Калі воі Данілавы крэпасці не возьмуць, дык таго і чакай, што зараз крыжоўнікі пад сценамі Мельніка апынуцца, адпомсцяць...

Нечакана гаманкі пасад затапіла цішыня. Дабко выскачыў з хаты на вуліцу. Стары сусед-руднік замёр на сваім парозе. У яго збляклым ад дыму і іскраў, падслепаватым позірку відаць насцярожанасць і непакой. Ён пільна глядзіць у бок крэпасці, туды ж накіраваны зрок і іншых мельнічан, што застылі на вулачцы. З ракі далятае ўсплёск хваляў, пераліўчаты званок жаваранка цурчыць з бяздоннай тоні бясхмарнага неба. Цішыня нарастае, заціскае заліты сонцам пасад. І раптам са старажавой вежы данёс-

(Працяг на стар. 4)

 

(Працяг са стар. 3)

ся скрып, а за ім — цяжкі гул звону. Адзін удар, другі. Трэці патанае ў каловарці, што ахапіла ўвесь пасад. Залемантавалі жанчыны, завішчэлі дзеці, рыкнуў дабытак. Хто жыў, усе кідаюцца ў хаты і клеці, і праз хвіліну-другую наладаваныя мяхамі ды вузламі адны бягуць да крапасных варотаў, другія шмыгаюць у бок пушчы.

У хату ўрываецца маці. Узвальвае на плечы адзін вузел, другі. Дабко тузаецца з непадатлівым цяжкім мехам. Маці паддае ношу і ён, хістаючыся, выкочваецца з хаты, выпускае з клеці жывіну. Малыя кволенькімі ручкамі ўшчаперваюцца за матчыну спадніцу і, каб не адстаць, хуценька месяць босымі ножкамі вулічную топкую гразь. Натоўп дакочваецца да крапасной сцяны і застывае: над ровам пагрозліва вісіць узняты мост.

— Пускайце!..

З-за заборала выхіляецца зашлемленая галава валадара крэпасці:

— Чаго вы?..

— Як чаго?! Апускай мост. Крыжоўнікі вунь валяць, — раве на ўсё горла сусед-руднік.

— Апускай! На гібель нас пакінуць захацеў?! — галосяць бабы, і ў галаву пасадніка-валадара ляцяць камякі гразі ды каменне.

— Суймiцеся! — крычыць той, адмахваючыся ад цэльных кідкоў, як ад назойлівых мух. — Ашалелі вы ці што?! Якія крыжоўнікі? Гэта ж воі нашага князя Данілы Раманавіча. Толькі што нарочны з-пад Драгічына прымчаўся — нашы Драгічын узялі, крыжоўнікаў перабілі або ў калоды закавалі. Я ж ад радасці і ў звон біць сказаў...

Натоўп адразу радасна загаманіў. Мужчыны і падросткі апусцілі з плеч ношы, а жанчыны ўхапілі на рукі дзяцей.

— Ідуць! — крычыць нехта са сцяны, і натоўп, як адна галава, паварочваецца ў бок драгічынскага гасцінца.




Зноў адзываецца крапасны звон. Над пагоркам спачатку трымціць князеўскі блакітны сцяг, высоўваюцца галовы дружыннікаў і да вушэй натоўпу далятае вясёлае гранне дудаў ды бубнаў. Хмара дзетвары кідаецца туды. Скрыпяць калаўроты, і, як толькі мост дакранаецца да зямлі, шырока расхінаюцца цяжкія створкі крапасных варотаў. Натоўп, у поспеху расцягваючы свае вузлы ды мяхі і панукваючы на адурнелы дабытак, робіць праход князеўскай дружыне.

Перадам едзе на сваім здаравенным булане князь Даніла, а побач з ім едзе на карым гарачым жарабцы яго брат Васілька. Да князеўскіх сёдлаў прытрочаны канцы петляў, што закінуты на шыю худашчавага гарбаносага крыжоўніка, відаць, самога военачальніка Бруна. Рукі яго скручаны назад, і ён, як п'яны, перакідаецца раз-пораз ад хваста Данілавага буланага да карага Васілька. На князеўскіх тварах яснее задаволеная ўсмешка. Натоўп шалее ад радасці: мужчыны падкідваюць угору дзяцей-малалетак, жанчыны цiснуцца наперад, зрываюць са сваіх галоваў хусткі і сцелюць пад ногі князяўскіх коней. З надваротнай вежы на ўязджаючых у крэпасць ліецца залаты струмень жыта і пшаніцы.

— Татка, татка! — верашчыць Дабко і нырае ў густую грамаду вояўпехацінцаў. Праз момант бацька ўжо падкідвае ўгору наймешую дачку, тая пішчыць ад задавальнення, а маці, забыўшыся на слёзы, што дзвюма ручаінкамі блішчаць на яе шчаслівым твары, туліцца да шырокіх мужавых грудзей. І толькі цяпер Дабко заўважае: правая бацькава нага перавязана рудой ад крыві хусцінаю.

— Татачка, што гэта? — дрыготным голасам пытаецца Дабко.

— Нічога, сынок, — гаворыць бацька, перадаючы ў матчыны рукі наймалодшую. — Гэта па крыжоўніцкай страле. Шчасце, што хоць не затручаная ды збоку сцягно задзела. Абышлося. Вунь, бачыш, колькі нашых легла...

Цераз радасны шум натоўпу то тут, то там прабіваюцца прарэзлівыя галашэнні. Ля возу, што затрымаўся збоку гасцінца, расхрыстаная і забітая нечаканым горам прычытвае нявестка старога рудніка: „А чаму ж ты не азвешся? А чаму ж ты дзетак сваіх родненькіх не прыгалубіш? А дзеткі твае — сіротанькі вечныя-я...“ Плачуць дзеці, ухапіўшыся ручкамі за драбіны возу, і скупая гаручая сляза зводьна коціцца па маршчыністым твары старога рудніка. Панурыўшы галовы, глядзяць суседзі на пасінелы твар нябожчыка.

— Бій іх паганых, — выкрыквае нехта, і натоўп ускалыхваецца і падаецца да гасцінца.

Там, апусціўшы галовы, у загвэзганых і абшмацелых плашчах з чорнымі крыжамі, брыдуць палонныя крыжоўнікі. Па іх тварах, грудзях і плячах пляскаюць камякі раскоўзлай гразі і конскага гною. А тыя з-пад ілба азіраюцца на раз'юшаны натоўп, нервова круцяць звязанымі рукамі і ўціскаюць глыбей галовы ў каўняры. Цераз натоўп прарываецца руднікава нявестка. Скача да крайняга здаравеннага крыжоўніка ды ўпіваецца пазногцямі ў яго пухлыя шчокі. Воі-стражы намагаюцца адарваць яе, а яна не сунімаецца, крычыць немым голасам.

— Ходзьма, дзеткі, дахаты, — бацькава рука мякка лажыцца на Дабкова плячо. — Гавяду нашу шукаць трэба, каб ненарокам дзе не задзелася.

А калі ўжо перад імі памахвае аблезлым хвастом красуля, пабрыквае ялошка і лянiва перастаўляе свае капыты пара валоў, наўючаных вузламі і мяхамі, бацька глядзіць у высь сакавіцкага пагоднага неба і кажа:

— Вясна сёлета дружная, як нябач і за саху брацца трэба.

— Та ўжэ ж, — адзываецца маці, і з яе вачэй свеціцца такая блакітная цеплыня, як з гэтага ласкавага сакавіцкага неба.

**Мікалай Гайдук**

# ІНКУБАТАР БУДАЎНІКОЎ

У комплекс будаўнічых школ на Сланімскай у Беластоку трапіў я выпадкова. Дырэкцыя і вучні запрасілі наведаць выстаўку іх дыпломных работ. А дыпломныя работы тут арыгінальныя: макеты асабнякоў, выкананыя на аснове індывідуальнай думкі дыпламанта і яго ўласнымі рукамі. Тое, што ўбачыў я ў вялікай зале школьнай майстэрні, захапіла мяне.

Зацікавіўся я шырэй справамі школы. Мае яна як бы два напрамкі: вучыць моладзь на тэхнікаў-будаўнікоў і — у асноўнай школе — на кваліфікаваных муляроў, маляроў, бляхароў, бетаняраў, гідраўлікаў, паркетнікаў.

У асноўнай школе навука працягваецца два гады, а вучні маюць тры дні тэарэтычныя заняткі, а тры — практычныя — у школьнай майстэрні або на будове. Школа мае новы сучасны інтэрнат са сталовай, а вучні атрымліваюць стыпендыю ад 200 па 564 злотых у месяц. Незалежна ад стыпендыі, за добрую працу вучні атрымліваюць рэчавыя ўзнагароды.

Асобае месца ў дыдактычна-выхаваўчым працэсе займае школьная майстэрня. Тут вучань упершыню мае дачыненне з цэглай, мулярскай заправай, упершыню трымае ў руках кельню, а распачынае, як ні дзіўна, ад гліны. Але з кожным амаль днём сутыкаецца з новымі аддзяленнямі, дзе вядуць заняткі кваліфікаваныя спецыялісты і педагогі.

— Школьная майстэрня, — гаворыць яе кіраўнік, інж. Януш Станкевіч, — з'яўляецца на сваім уласным разліку.

— Гэта абазначае, што абавязана на сябе зарабіць у намечаных планам бюджэтных сродках.

— Зразумела. І таму маем сваю асобную бухгалтэрыю, главбуха, ад гэтага залежаць заробкі нашых працаўнікоў.

— Інакш гаворачы, маленькае прадпрыемства.

— У гэтым годзе наша майстэрня павінна „перарабіць“ 3 мільёны злотых. Дзеля гэтага мы кожны год прымаем заказы ад дзяржаўных і кааператыўных фірм, а таксама ад індывідуальных асоб. Заказчыкі прывозяць нам дакументацыю, а мы маем кваліфікаваную рабочую сілу, а таксама, калі хоча заказчык, будаўнічыя матэрыялы. Прымаем таксама малярскія працы, але пры ўмове, што будзе не менш, як пяць памяшканняў, таму што трэба запэўніць фронт працы прынамсі для чатырнаццаці вучняў. Не маем з гэтым клопатаў. Заўсёды ёсць больш заказаў, чым магчымасцей.



*Адна з дыпломных работ будучых будаўнікоў.* фота аўтара

У дыдактычным працэсе вельмі важным з'яўляецца той факт, што маладыя будаўнікі выконваюць сваю работу на час, ніколі яшчэ не мелі яны так званых гарантыйных паправак.

Будучыя будаўнікі ў майстэрні вучацца „бгп“, карыстанню з сацыяльных умоў, знаёмяцца з арганізацыяй працы на будаўнічым прадпрыемстве. Не чужыя ім актуальныя справы краіны, грамадскіх пачынаў будаўнікоў. Як і па прадпрыемствах, прымаюць яны ўдзел у конкурсах. На сценах майстэрні відаць надпісы: „Прымаем удзел у конкурсе ЦРЗЗ“, „Можам зрабіць больш, лепш і танней“. У рамках гэтага конкурсу моладзь абавязалася павялічыць прадукцыю на 50 тыс. злотых. Апрача таго, ужо па традыцыі прымае ўдзел у акцыі дадатковай прадукцыі. У рамках акцыі „30 мільярдаў“ моладзь абавязалася даць 50 тыс. злотых дадаткова.

Візіт у школе можна закончыць думкай: тут моладзь вучыцца прафесіі і вучыцца, як хутчэй будаваць другую Польшчу.

**А. Карпюк**

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XV**

**Пейзажная лірыка.** Прыродаапісальныя вершы складаюць бадай, найбольшую тэматычную групу ў паэзіі Багдановіча. Здаецца, няма чалавека, а тым больш паэта, які меў бы абыякавыя адносіны да прыроды. Няма сумненняў, што Багдановіч належаў да тых людзей, у душы якіх прырода выклікала пачуццё здзіўлення і захаплення. Прырода ў такой самай ступені, як і людзі, была творчай інспірацыяй для паэтычных пошукаў Багдановіча. Цяжка было б пералічыць усе пейзажныя вершы паэта. Назавем найважнейшыя: „Бура“, „У небе — ля хмары грымотнай“, „Возера“, „Прывет табе, жыццё на волі“, „Блішчыць у небе зор пасеў“, „Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог“, „Добрай ночы, зара-заранiца“, „Ціха на мяккай траве“, „Вечар на захадзе ў попеле тушыць“, „Плакала лета, зямлю пакідаючы“, „Дзесь у хмарах жывуць павукі“, „Зімовая дарога“, „Зімой“, „Перад паводкай“, „Па-над белым пухам вішняў“, „Напілося сонца са крыніц сцюдзёных“, „Рандо“, „Ноч“, „Старасць“, „Вечар“, „Вось і ноч“, „Непагодаю маёвай“. Апрача гэтых тыпова прыродаапісальных вершаў, знаходзім у спадчыне Багдановіча нямала такіх твораў, у якіх пейзажныя замалёўкі з'яўляюцца прадмовай да філасофскага роздуму над жыццём. Сувязь з пейзажнай лірыкай выступае таксама ў вялікім цыкле вершаў міфалагічных — аб падвеях, вадзяніках, лесавіках, ведзьмах, русалках. Аднак вершы гэтага цыкла адносяцца хутчэй за ўсё да фальклорнай фантастыкі, таму не будзем іх разглядаць пры пейзажнай лірыцы.

Усе прыродаапісальныя вершы Багдановіча можам раздзяліць на некалькі груп. У першую групу ўваходзяць вершы, у якіх гаворыцца аб хмарах, буры, дажджы. Да гэтых вершаў залічаем творы „Бура“, „У небе — ля хмары грымотнай“, „Дзесь у хмарах жывуць павукі“, „Напілося сонца са крыніц сцюдзёных“.

Наогул такія грозныя прыродныя з'явы, як хмары ці бура, выклікаюць у сэрцы Багдановіча радасныя настроі. Паэта цешыў дождж — крыніца адраджэння прыроды. Багдановіч быў схільны адухаўляць прыродныя з'явы. Адносіцца гэта да дажджу, і да хмар, і да неба.

Аптымістычна, радасна вітае аўтар дождж і хмару ў вершах „Бура“, „У небе — ля хмары грымотнай“, „Напілося сонца са крыніц сцюдзёных“.

У вершы „Бура“ маланка здаецца Багдановічу агністым мечам, які „зіхаціць вясёла“. У вершы „У небе — ля хмары грымотнай“ вецер, які разагнаў хмары, „радасна вые“. Найбольш інтэнсіўная, радасная струя выступае ў вершы „Напілося сонца са крыніц сцюдзёных“. Твор гэты можам назваць гімнам у чэсць прыгажосці, магічнасці і гармоніі прыроды. Паслухайма:

Напілося сонца са крыніц сцюдзёных,
Усцягнула ў вышу з іх ваду, як пар;
І, ўзляцеўшы шпарка на праменнях тонкіх,
Пар зрабіўся слічнай чарадою хмар.

Ў даль яны памкнулі, і лятуць пад імі
Нівы ды балоты, поле, бор, лука.
Але што там блішча? Ці не ты, сястрыца,
Ці не ты ліешся, срэбная рака?

Загрымелі ў хмарах гулка прывітанні,
І далёка буйны вецер іх разнёс,
Рынуліся хмары да ракі радзімай
І зліліся з ёю ліўнем кропель-слёз.

Трэба адзначыць, што для некаторых з ужо названых вершаў характэрна заалагічная сімволіка і заалагічныя асацыяцыі. І так, у вершы „Бура“ хмара здаецца паэту „велізарнай жывёлінай“. Гэты заалагізм найбольш поўна праявіўся ў вершы „Дзесь у хмарах жывуць павукі“. Усе параўнанні, метафары і асацыяцыі ў гэтым творы — гэта праяў хваравітага ўяўлення, паталагічнай фантастыкі. Вось гэты верш:

Дзесь у хмарах жывуць павукі,
Што снуюць павучыну дажджа.
Кожны тлусты і мяккі такі,
Скура слізкая, як у вужа;
Ў целе стыне халодная кроў,
Злосць бясцэльная ў мутных вачах...
Чуеш! Во шорах ног павукоў,
Аплятаючых сцены і дах.

Трэба падкрэсліць, што такая асацыятыўнасць не характэрна для пейзажнай лірыкі паэта. Хто ведае, можа паэт апісаў адзін з сваіх чорных сноў ці галюцынацый, якія наведваюць чалавека ў гарачцы.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ◆ НАЧАЛЬНІК ◆



Работнікі паштовых установ з'яўляюцца нашымі саюзнікамі, пасрэднікамі паміж чытачамі і нашым беларускім тыднёвікам „Ніва“. Мы наведалі паштовую ўстанову ў Старым Ляўкове Гайнаўскага павету і засталі там начальніка ўстановы Міхася Смольскага. Пошта ў Ляўкове абслугоўвае многа вёсак і вёсачак. Жыхары іх выпісваюць больш ста дваццаці экземпляраў „Нівы“. Росту падпіскі спрыяе рэгулярнае даручэнне часопісаў.

Наш ветлівы субяседнік начальнікам паштовай установы працуе ад 1955 года і мае вялікі вопыт у сваёй працы. За паспяховую працу быў узнагароджаны адзнакай „Перадавік сацыялістычнай працы“. Начальнік Міхась Смольскі з'яўляецца шматгадовым членам ЗСЛ. Выконвае рад адказных грамадскіх функцый у сваім асяроддзі.

Пошта, якой кіруе М. Смольскі з'яўляецца добрым прапагандыстам прэсы ў вясковым асяроддзі. Кіраўніцтва керамічнай фабрыкі асабліва ўдзячна начальніку пошты за спраўную тэлефонную сувязь з дырэкцыяй і з другімі шматлікімі ўстановамі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

## Спорт ў гміне

У Нараўцы Гайнаўскага павету ёсць добрыя спартыўныя традыцыі. Мясцовыя жыхары вельмі актыўна ўключыліся ў пабудову новай спортпляцоўкі, якую нават назвалі спартыўным стадыёнам. Знаходзіцца ён у прыгожым месцы ў цэнтры пасёлка. Многа тут зелені. Вакол стадыёна драцяная сетка. На насыпе побач беговай дарожкі ёсць лавачкі для балельшчыкаў і крыху далей будыначак, прыспасоблены на раздзявальню і для перахоўвання розных неабходных спартыўных прылад і прадметаў.

Справамі спорту ў Нараўцы зацікаўлены сам начальнік гміны Уладзімір Гацкевіч, начальнік чыгуначнага вакзала Павел Леўша, Збігнеў Грудзінскі, многія іншыя дзеячы, напрыклад, мясцовай стражы пажарнай, сферы абслугоўвання і г.д. Таму, між іншым, з году ў год развіваецца тут спартыўны рух, расце і сталее перш за ўсё футбольная каманда. Мясцовыя ўлады клапоцяцца пра ўсё неабходнае для спартсменаў: пра касцюмы, абутак для ігры ў футбол і ўсялякае іншае, не менш патрэбнае аснашчэнне, пра ўсе рамонты будынка ці касметыку стадыёна.

Нараўкаўскія арганізатары спорту і самі спартсмены запрасілі нас прыехаць паглядзець спартыўныя матчы на іх стадыёне, якія будуць праходзіць на працягу жніўня, верасня і кастрычніка.

Нараўкаўскія футбалісты будуць удзельнічаць у розыгрышах з наступнымі футбольнымі камандамі: „Чыгуначнік“ Чаромха (25.VIII), „Арол“ Кляшчэлі (1.IX), „Дуб“ Навасады (29.IX), „Пушча 11“ Гайнаўка, (20.X.) і „Зубр“ Белавежа (27.X). **(ця)**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**Хрысцінная прыпеўка**



Пры-шоў кум до ку-мы По-зы-ча-ті бо-ро-ны, Ку-ма но-гу пуод-ня-ла:



— О то то-біе бо-ро-на! Ку-ма но-гу пуод-ня-ла: О то то-біе бо-ро-на!

*Прышоў кум до кумы*
*Позычаті бороны —*
*Кума ногу пуодняла:*
*— О то тобіе борона!*
*Кума ногу пуодняла:*
*— О то тобіе борона!*

Ад Анны Стахвіюк, год 50, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 21 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

**(Працяг са стар. 1)**

## Цярністы шлях друку Заходняй Беларусі

мароў газета закрывалася, але хутка паяўлялася пад іншым загалоўкам. І так, пасля закрыцця органа „Жыццё беларуса“ праз шэсць дзён з'явілася „Беларуская ніва“, а пасля яе „Беларуская справа“. Праз чатыры дні пасля закрыцця „Беларускай справы“ з'явіўся „Наш голас“.

Кіруючую ролю ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе адыгрывала КПЗБ.

Працу „Грамады“ ў яшчэ больш цяжкіх умовах прадаўжаў Беларускі пасольскі клуб „Змаганне“. Аднак у 1929-1933 г. выхад заходнебеларускіх дэмакратычных выданняў польскай цэнзурай быў амаль спынены.

Аднак барацьба за беларускае слова і беларускую справу не спынілася. Выкарыстоўваючы „жэст ўзаемапавагі“ польскіх улад да СССР пасля падпісання ў 1932 г. пакта аб ненападзе, калі часова аслаб тэрор, КПЗБ выдае „Беларускую газету“. „Адліга“ працягвалася нядоўга. Газета была закрыта на 17-ым нумары, а яе супрацоўнікі былі арыштаваны.

Апошняй дэмакратычнай газетай, якая была нелегальным органам КПЗБ, была „Наша воля“. Газета пачала выходзіць у снежні 1935 г. і закрыта была 23 жніўня 1936 г. па 12(13) нумары.

Недахопам адзначанай вышэй працы з'яўляецца пропуск факту заключэння ў студзені 1934 г. санацыйным урадам пакта аб ненападзе з гітлераўскай Нямеччынай. Пасля гэтага ўзмоцніўся тэрор і паскорыўся працэс фашызацыі. Найлепшым прыкладам гэтага было стварэнне паводле гітлераўскага прыкладу канцэнтрацыйнага лагера ў Картуз-Бярозе. Пасля гэтага перастаў быць патрэбен нават выгляд законнасці, бо ў лагеры высылаліся невыгодныя рэжыму людзі адміністрацыйным парадкам.

Гэта пагражала супрацаўнікам „Нашай волі“; а рэдактару яе па загаду Міністэрства ўнутраных спраў ваяводскаму ўраду ў Вільні было „дадзена да зразумення“, што калі не спыніць „wywrotowej” дзейнасці, „будуць зробленыя адпаведныя вывады“. (Глядзі M. Pietrzak: Reglamentacja wolności prasy w Polsce (1218 — 1939), „Książka i Wiedza”, 1963r. str. 274 — 275).

Нягледзячы на тое, што кожнае слова было прадумана з пункту гледжання цэнзурных умоў, ужо другі нумар „Нашай волі“ быў канфіскаваны.

У гэткіх абставінах немагчыма было выказаць на старонках газеты ўсё, што хацелася, але ўсё ж выказвалася многа, што для працоўных Заходняй Беларусі мела вялікае значэнне.

Кніжка С. Говіна „Друк Заходняй Беларусі“ з'яўляецца піянерскай. Яна запаўняе прабел у галіне гісторыі працоўных Заходняй Беларусі — на важным яе адрэзку. З карысцю яе прачытае кожны. Для маладога пакалення гэта мінулы перыяд гісторыі, з якога яны многаму могуць навучыцца. Для старэйшых, тых, што тварылі гэту гісторыю, — гэта пройдзеная дарога, зрошаная іх крывёй і потам.

Для працоўных Беласточчыны, якія адыгралі ў гэтай гісторыі не апошнюю ролю, кніжка гэта мае асаблівае значэнне. Яе паяўленне ў свет супадае з трыццацігоддзем іх бацькаўшчыны — Польскай Народнай Рэспублікі. Ацэньваючы пройдзены шлях, яна дапаможа ацаніць веліч дасягненняў братніх сацыялістычных народаў, якія пакончылі з эксплуатацыяй і нацыянальным прыгнётам.

**В. Склубоўскі**

*У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ*



*Перапынак.* *Фота В. Рудчыка.*

З МАЁЙ ЗВАНІЦЫ

## Халадзільнік з фокусам

Я заўсёды, даражэнькія, люблю панаракаць на страшэнную нудоту сённяшняга механізаванага свету. Ну бо ва ўсіх, скажам, газавыя пліткі, і ўсе яны гараць. Ва ўсіх тэлевізары, і ў кожным, калі схочаш, праграму агледзіш. Калі ў каго швейная машына, дык адразу вядома, што шыць будзе, а калі халадзільнік, дык будзе марозіць.

Усё штодзённае, ва ўсіх аднолькавае, стоптанае, упярод запланаванае, — адным словам нудота.

І вось аднойчы мне, ведаеце, пашанцавала. Зусім выпадкова мне ўдалося прыдбаць механічную прыладу з выразнай індывідуальнасцю. Халадзільнік — але не звычайны, а халадзільнік-цуд, халадзільнік — мару кожнага сучаснага інтэлектуала.

Купляючы гэта бляшанае пудла, я і не думаў нават, на якую вышыню ў таварыскіх адносінах я дзякуючы яму ўздымуся.

Ну што ж, купіў, прывалок дахаты, уключыў куды і як трэба, а жонкі як не было так і няма. Пабег я па Перхацінскага — трэба ж каму-кольвек новым набыткам пахваліцца.

Па дарозе, вядома, прыхапілі паўлітра, піва бутэлек пару. На стол, зразумела, чаркі, а піва ў халадзільнік — няхай стыне. Чокнуліся раз і другі, калі раптам штосьці як не стрэльне.

Трэснуў я кулаком у спіну Перхацінскага, які з перапуду селядцом падавіўся, і хутчэй да піва лезу. — Няхай хлябне, бедны. Калі гляджу, а з усіх бутэлек капсулі паадскаквалі, і піва, месц стынуць, спакойненька сабе кіпіць — булькае. А тут, як на злосць, яшчэ званок у дзверы. Хітрынскі ўвальваецца, пранюхаў, падла, што ёсць да чаго прысесці. І раптам мне прыйшла ў галаву ідэя.

— Ведаеце, што, — кажу, — халоднае піва гэта пошла, усе так п'юць, даўно гэта выйшла з моды. А ці вы калі грэтае, з цукрам і яечным жаўтком каштавалі? І адразу мяшаю, боўтаю — ратую сітуацыю. Бачу, пасмакавала.

Так і пачалося. Калі мы на другі дзень пачаставалі Цікавінскіх крутымі яйкамі проста з халадзільніка, пайшлі чуткі па ўсяму гораду. Ад гасцей адбою не было.

Зайздасцінскія награнулі якраз падчас чарговага рамонту. Ну, бо трэба вам ведаць, што цаца наша была на гарантыі, і майстры да нас штодзень акуратна наведваліся.

— Ну, цяпер, пэўна, будзе марозіць, — яхідна заўважыла Зайздрасцінская.

— Можа і так, — гавару скромна і запіхаю ў бляшанае нутро кілаграм селядцоў.

І ўявіце сабе толькі, не мінула яшчэ паўгадзіны, калі бачым, а па ўсёй кватэры сізенькі дымок сцелецца. Я за дзверку, вокны навосцеж, а пасля проста на стол свежага капчэння рыбку. Фурор, адным словам.

Альбо Бывальская, скажам, тая з сынком Ёзікам да нас прыйшла. Яе, вядома, нічым не здзівіш. Усюды была — усё бачыла.

— Дайце я, — кажа, — у вашым халадзільніку малако скіпячу малому, чула што ён грэе адмыслова.

Ну што ж, калі ласка. Яна па тое малако, а дзверцы ні з месца. Тузанула мацней, а тут дзіва. Адзін лёд наўкруга — ручка толькі ад каструлькі тае тырчыць. Аслупела баба.

А я, каструльку тую сякерай вырубаўшы, марожаным малочным малога частую, падвойную порцыю яму на талерку — а ў сэрцы ўсё аж спявае.

Хутка чуткі пра арыгінальнасць, нештодзённасць нашага быту дайшлі аж да Варшавы. Прыязджалі журналісты, з'явілася і тэлебачанне. На сходах, мітынгах і ў прэсе мяне не называлі іначай, як наш агульнавядомы...

І ўсё сапсавала мая жонка. А шчыра кажучы, дзядзька яе, Кандрат, які з вёскі прыехаў.

— Што, — гаворыць, — халадзільнік? А які ж ёлап у такім выпадку на гарантыю ўглядаецца? Тут пакуль красуля разоў два не рыкне, толку не будзе.

— Якая ізноў красуля?

— А звычайная, з банку, соценька чырвоная.

Паслухалася, на бяду маю, дурная баба. З той пары, чаго б не паклаў у халадзільнік, той звычайна марозіць. Зусім звычайна, як ва ўсіх людзей, на ўсім свеце. Ніхто больш не цікавіцца намі — ізноў мы ў шэрым натоўпе расталі.

А жонка яшчэ цешыцца!

Вядома, мяшчанка.

**Ларс**

## КІМ БЫЦЬ?

*Маці.* Ну, што, бацька, табе сказалі ў школе?

*Бацька.* Лепш не пытай.

*Маці.* Як гэта „не пытай"?! Я абавязана цікавіцца поспехамі адзінага сына!

*Бацька.* Дрэнныя справы...

*Маці.* Божа, што будзе з нашым хлопчыкам?

*Бацька.* Вось аб гэтым я і хацеў з табой пагаварыць.

*Маці.* А што, калі яго аддаць вучыцца на вадаправодчыка?

*Бацька.* Шкодна для печані. Пэўны цiроз.

*Маці.* Пры чым тут печань?

*Бацька.* Пры тым, што ў кожнай кватэры яму будуць даваць на паўлітра...

*Маці.* Гэта ты маеш рацыю... Можа, яму паспрабаваць спяваць на тэлебачанні або на эстрадзе?

*Бацька.* Мне балюча аб гэтым гаварыць, але наш сын не спявае, а бляе, як надоеная каза.

*Маці.* Цяпер гэта вельмі модна! Многія так спяваюць...

*Бацька.* Менавіта таму наша дзіця не вытрымае канкурэнтнай барацьбы.

*Маці.* А што, калі мы аддамо хлопчыка ў пісьменнікі?

*Бацька.* Слухай, маці. Ты ведаеш — я люблю літаратуру. Нават у рабочы час чытаю, але, на жаль, хлопчык увесь у цябе! Скажы, напрыклад, хто напісаў „Ціхі Дон Жуан"? Не ведаеш. А „Хаціну Трох мушкецёраў"? Не ведаеш. Тота ж. Пісьменнікам стаць! Ды з яго і чытача не атрымліваецца!

*Маці.* Значыць, гэта я вінавата ў тым, што ён дрэнна вучыцца?

*Бацька.* Добра, аб гэтым позна... А што, калі яму падацца ў футбалісты? І кватэру б атрымаў, і грошы надрэнныя.

*Маці.* Футбалістам! Гэта з тройкамі па фізкультуры! Апрача таго, футбаліст павінен быць праўшою на абедзве нагі.

*Бацька.* Так, так... Слухай! Можа, яму стаць лодачнікам? Так, гавораць, пачынаў сваю кар'еру Анасіс, муж Жаклін Кенедзі.

*Маці.* Які з яго лодачнік — ён і плаваць не ўмее...

*Бацька.* Тады таксістам! Вось хто зарабае!..

*Маці.* Ах, куды яму ў таксісты, калі ён не толькі аблічыць, а падлічыць толкам не ўмее?!

*Бацька.* Добра. Усё ясна. Хай ідзе працаваць шахцёрам! Дасканалая праца, высокія заробкі...

*Маці.* Слухай, бацька, ты пасля гэтага бацькоўскага сходу зусім здурэў! Шахта! Там ж працаваць трэба. А я шукаю для нашага малышa харошае месца.

**Уласта Смржова**



— Вось і сонейка выглянула!

# НІЎКА



— Мы правялі водпуск у Індыі.

### ГЭТА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД КОШАК

— Колькі жывуць мышы? — спытаў настаўнік.

— Гэта залежыць ад кошак, — адказаў вучань.

### АДПАЧЫЎ

— Ну, як адпачыў?

— Во!

— Ездзіў на курорт?

— Не, на курорце была жонка.

### ТОЛЯ ТРЭНІРУЕ ВОЛЮ

Ведаеце вы, як Толя
Трэніруе сілу волі?
Думае, калі вітацца:
— Першаму чаму спяшацца?
Не ўступае ён дарогі:
— Ці ў мяне чужыя ногі?
Да званка адна мінута,
Ён яшчэ нераспрануты.
Сунецца павольным крокам
Уразвалку на ўрокі.
Пастаіць ля класа ўпарты,
Не спяшаецца за парту.
Выклічуць яго да дошкі:
— Дайце мне падумаць трошкі.
Тое „трошкі" — з паўгадзіны
Думае ён з важнай мінай.
А званок, ён куляй з класа,
Толькі бліскаюць абцасы.
Вось як Толя
Трэніруе сваю волю.

**Паўлюк Прануза**

### ЗДАГАДЛІВЫ

Настаўнік пытаецца ў вучня:

— Чаму бывае кіслая глеба?

— Таму, што на ёй многа шчаўя расце, — адказвае той.

### МІНІВЕРШЫ

### ПЫТАННЕ Ў АДКАЗ

Бацька ушчувае вучня-сына:
— Ведаеш, чаго ссівеў я так?
Што сваруся на цябе няспынна
За ляноту за тваю, лайдак!

Сын унурыўся, зірнуў спадлоб'я
І спытаў, не ўзняўшы галавы:
— Калі гэта праз мяне — дык добра:
ад чаго тады мой дзед сівы?

**Ніл Гілевіч**





...Ён казаў: Цікава, што ў газетах заўсёды можна даведацца аб смерці вядомых людзей, але ніколі нельга прачытаць аб іх нараджэнні.

...Ён казаў: Калі Галактыку насяляюць культурныя людзі, яны да нас без запрашэння не прыляцяць.

### УСЁ ЎЛІЧАНА

Настаўнік: Колькі будзе 2 і 5?

Вучань: Не ведаю.

Настаўнік: Ну вось я пакладу табе ў кішэню 5 злотых, а затым дабаўлю яшчэ 2 — колькі будзе?

Вучань: У мяне ў кішэні дзірка.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Шыманюк з Гайнаўкі, Ані Бышчук з Чаромхі, Ані і Марысі Назарук з Арэшкава Гайнаўскага павету, а таксама Ані Герасімовіч з Бельска і Марысі Г. змяшчаем песню з рэпертуару групы „і"*

## RADOŚĆ O PORANKU

Słowa: Jonasz Kofta
Muzyka: Juliusz Loranc

Jak dobrze wstać
skoro świt,
jutrzenki blask
duszkiem pić,
nim w górze tam
skowronek zacznie tryl,
jak dobrze wstać.
Dla tych chwil,
gdy nie ma wad
wspaniały, piękny świat,
jak dobrze wcześnie
rano wstać
wiosną lat.
Otrząsa się
z rosy bez,
chcę w taki dzień
znaleźć cię,
obiecał mi
poranek szczęście dziś
i szczęście dziś
musi przyjść.
Nie zmąci mej
radości żaden cień,
wschodzące słoce
śmieje się,
co za dzień!
Obiecał nam ranek wszystko,
co chcemy mieć:
miłość ludziom,
deszcze listkom,
słowom sens.
Budzimy się do życia,
naiwni tak,
jak czasami porankiem bywa
piękny świat.
Nadzieja i jutrzenka,
siostry dwie,
trzeba wiedzieć, że są,
wierzyć w nie.
Dzisiaj
odnajdę,
odnajdę siebie samą.
Dzisiaj
na pewno wyjdę za mąż
Dzisiaj,
dzisiaj,
bo dzisiaj...
Łaj di di di baj baj
wstaje świt,
taki piękny to czas,
chce się żyć
i chce się wstać,
bo chce się żyć.
Łaj di di di baj baj,
szkoda dnia,
to, czego pragniesz,
najgoręcej chcesz,
to tylko może
w taki dzień
zdarzyć się.
Otrząsa się
z rosy bez,
chcę w taki dzień
znaleźć cię,
obiecał mi
poranek szczęście dziś
i szczęście dziś
musi przyjść.
Nie zmąci mej
radości żaden cień,
wschodzące słońce
śmieje się,
co za dzień!



— Не перашкаджай бацьку рашаць маю здачу..

З в'етнамскага

### НЕДАВЕРЛІВАЯ ЖОНКА

Жыў у вёсцы хвалько. Вярнуўся ён аднойчы дадому і гаворыць жонцы:

— Ну, і змяю бачыў у джунглях! Дваццаць локцяў у абхват, а даўжынёй на ўсе сто дваццаць!

— Быць не можа! — кажа жонка.

— Ну, сто.

— І сто не можа быць.

— Ну, калі не сто, то восемдзесят.

— А калі па праўдзе?

— І якая ж ты недаверлівая! Можа будзеш спрачацца, што і дваццаць локцяў даўжыні замнога?

— І ў абхват столькі ж. Хіба ж бываюць квадратныя змеі?



Юны авечкавод.

## КУРЁЗЫ

### „НУ, ПАЧАКАЙ!"

Аматары статыстыкі падлічылі, што ў мінулым годзе толькі ў адным кінатэатры Сафіі „Культура" савецкі мультфільм „Ну, пачакай!" паглядзелі 250 тысяч чалавек. Старажылы балгарскай сталіцы сцвярджаюць, што такога аншлага тут не было. Цікава, што бацькі вяртаючыся з работы і не знаходзячы сваіх дзяцей дома за падрыхтоўкай урокаў, адразу ж ехалі ў цэнтр Сафіі і лавілі ўцекачоў у чарзе ля касы кінатэатра „Культура".

З экрана героі фільма „пакрочылі" на прылаўкі магазінаў. За лічаныя дні былі раскуплены майкі і тэніскі з малюнічымі партрэтамі герояў фільма. І дарослыя і дзеці ахвотна куплялі вялікія круглыя значкі, на якіх няўлоўны заяц паспяхова ўцякаў ад разгубленага дурнога ваўка.

### САМ СЯБЕ ВЫСЦЕБАЎ

Не, што ні кажыце, не перавяліся яшчэ сярод амерыканскіх суддзяў людзі і справядлівыя, і прынцыповыя. Доказ таму — варты пераймання ўчынак раённага суддзі Ральфа Кона з горада Эдрыян, штат Мічыган.

Суддзя спазніўся (з кім граху не здараецца) на чарговае судовае пасяджэнне на 10 мінут. Заняўшы сваё старшынскае месца і аддыхаўшыся, жрэц Феміды прапанаваў прысутным у зале ўстаць, а затым зачытаў здзіўленым падсудным, адвакатам і пракурорам свой вердыкт.

Згодна з вердыктам, суддзя Кон прызнаваўся вінаватым у „знявазе суда" і прыгаварваўся да грашовага штрафу ў 50 даляраў. Выканаўшы свой абавязак, служыцель закона, які аштрафаваў сам сябе, пачаў бягучыя справы.



**Калі б была адкрыта школа па павышэнню кваліфікацыі падхалімаў, дык давялося б арганізаваць і акадэмію.**